№ 114 (1677)

Серада, 25 чэрвеня 2003 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Кошт свабодны.

*На пpастоp, на шыpокі pазлог*
*Выходзі, мой наpод, гpамадою...*
**Якуб Колас**

# Народная Воля

E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

***Надвор'е***

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +13...+15, дождж, уначы — +11...+13, дождж; у Брэсце ўдзень — +17...+19, уначы — +11...+13, дождж; у Гродне ўдзень — +12...+14, дождж, уначы — +11...+13, дождж; у Віцебску ўдзень — +16...+18, дождж, уначы — +10...+12; у Гомелі ўдзень — +21...+23, сонечна, уначы — +13...+15, дождж, навальніца; у Магілёве ўдзень — +17...+19, уначы — +12...+14, дождж, магчыма навальніца.

*www.meteo.by*



# Сёння, 25 чэрвеня 2003 года, Беларусь развітваецца с Васілём Быкавым

## ВАСІЛЬ УЛАДЗІМІРАВІЧ БЫКАЎ

Беларуская літаратура панесла непапраўную страту. 22 чэрвеня 2003 года пасля цяжкай і працяглай хваробы пайшоў з жыцця народны пісьменнік Беларусі, Герой Сацыялістычнай Працы, лаўрэат Дзяржаўных прэмій СССР і Беларусі Васіль Уладзіміравіч Быкаў.

Васіль Быкаў нарадзіўся 19 чэрвеня 1924 года ў в. Бычкі Ушацкага раёна Віцебскай вобласці. Вучыўся ў Віцебскім мастацкім вучылішчы. Шляхамі Вялікай Айчыннай вайны прайшоў праз Украіну, Венгрыю, Румынію, Аўстрыю, быў двойчы паранены. Пасля вайны працаваў у газеце "Гродзенская праўда". З 1978 года знаходзіўся на літаратурнай рабоце.

Ваенныя падзеі сталі лёсавызначальнымі для жыццёвага і творчага шляху Васіля Быкава. Імкненне перадаць праз мастацкае слова суровую праўду вайны, абвостраная чалавечнасць, высокая патрабавальнасць у сцвярджэнні маральных прынцыпаў — вось адметныя якасці Быкава-пісьменніка.

Сапраўдная літаратурная біяграфія пісьменніка пачалася з аповесці "Жураўліны крык", якая выйшла ў 1960 г. Звярнуўшыся ў ранніх творах да ваеннай тэмы, Васіль Уладзіміравіч працаваў над ёй на працягу амаль усяго свайго жыцця. Аповесці Васіля Быкава "Трэцяя ракета", "Альпійская балада", "Абеліск", "Сотнікаў", "Знак бяды" і іншыя належаць да лепшых узораў сучаснай беларускай прозы.

Творчасць пісьменніка шырока вядома за межамі Беларусі. Кнігі Васіля Быкава выходзілі на 35 мовах свету. Агульны тыраж выданняў пісьменніка склаў звыш 3 млн. экз., у тым ліку на беларускай мове 1,2 млн. экз. Па творах В.Быкава пастаўлены кінафільмы, спектаклі, балет, створаны творы выяўленчага і музычнага мастацтва.

Імя і кнігі Васіля Быкава назаўжды ўвайшлі ў гісторыю нацыянальнай культуры. Светлая памяць аб выдатным майстры беларускага слова жыве і будзе жыць у нашых сэрцах.

**А.Р.Лукашэнка, Г.В.Навіцкі, А.П.Вайтовіч, В.А.Папоў, У.Р.Латыпаў, У.Н.Дражын, А.В.Праляскоўскі, М.В.Падгайны, Л.П.Гуляка, Л.С.Мальцаў, П.І.Брыгадзін, У.П.Андрэйчанка, М.Я.Паўлаў, К.А.Пачэпка, І.І.Вашкевіч, А.М.Новікаў, А.А.Пашкевіч, М.І.Чаргінец, І.П.Шамякін.**

## Апошняе шчасце беларуса — памерці на роднай зямлі

Цяжка змірыцца са смерцю Васіля Быкава. Такое ўражанне, што памерла беларуская літаратура. Быкаў быў яе аблíччам. Ён адлюстраваў і спраўдзіў у вобразах класічныя пастулаты нацыянальнай літаратуры: "лёсы чалавечыя — лёсы народныя".

Для мяне вельмі балюча, што Быкаў памёр у цяжкім часе і не ў свабодзе, якую трэба яшчэ вярнуць. Крыўдна, што ён яе не ўбачыць.

Але спакайнее душа, што адбылося гэта на Бацькаўшчыне. Толькі той, хто яе страціў, як Адам Міцкевіч ці Максім Багдановіч, толькі той можа зразумець, што нават памерці на Радзіме ёсць шчасце. Апошняе шчасце беларуса.

Тое, што ўжо не стала Быкава, яшчэ цяжка ўсвядоміць. У 80—90-я гады, у час актыўнага змагання за незалежнасць і справядлівасць, Васіль Уладзіміравіч быў для мяне тым найпершым чалавекам, на якога можна было абаперціся, калі акружала і кусала цябе воўчая зграя. З ягоным словам лічыліся ўсе.

Але з другой паловы 90-х гадоў з'явілася атмасфера і людзі, для якіх анічога няма ў Беларусі святога.

У гэтай атмасферы было немагчыма дыхаць і жыць вялікаму пісьменніку, бо не кожны рашаўся яго бараніць.

Адзіноцтва на Бацькаўшчыне ён змяніў на адзіноцтва на Захадзе, дзе яшчэ горай, але ўжо ніхто не мог яго зневажаць.

І вось цяпер ён вярнуўся ў святую нашу зямлю. Яна, як душа, як калыска, як вечная любоў. Хай жа будзе яна для яго спагаднай!

Хай жа стане яна для нас — свабоднай!

**Зянон ПАЗЬНЯК.**

*22 чэрвеня 2003 г., Нью-Йорк.*

## Ён змагаўся за Вольную Беларусь

Калі ўвосень 1988 года Беларусь перажывала адзін з кульмінацыйных момантаў сваёй шматвяковой гісторыі, тысячы, сотні тысяч людзей шукалі шлях у жыцці. Утвараўся Беларускі Народны Фронт, беларусы пазбаўляліся ад страху і няпэўнасці, народ злучаўся ў імкненні да Праўды і Дабра, Незалежнасці і Свабоды сваёй Бацькаўшчыны — Беларусі.

Пасля двух стагоддзяў каланіяльнага рабства мы заявілі аб праве на самавызначэнне, на сваю культуру і мову, на дастойнае існаванне ў сям'і еўрапейскіх народаў. З намі быў Васіль Быкаў! Палярная зорка на небе Беларусі — Васіль Быкаў святлом сваёй душы даваў упэўненасць патрыётам Бацькаўшчыны. Ягоны голас, ягоныя словы прагучалі мужна і пранікнёна: "Сумленне ва ўсім: у стаўленні да народа, да гісторыі, да сучаснасці і да будучыні".

Адкуль была тая народная вера ў шчырасць і слушнасць пазіцыі Творцы? Кнігі Васіля Быкава вучылі нас чалавечнасці і надавалі жыццядайнай моцы ў самыя цёмныя дзесяцігоддзі хлусні і рэакцыі. Рамантычны ўздым канца 80-х, з якога нарадзілася наша незалежная дзяржава, быў падрыхтаваны творчасцю беларускага генія.

Ягоныя творы былі духоўным апірышчам некалькіх пакаленняў нашага народа. І калі настала пара выбару, ён быў на чале тых, хто абраў Беларусь і супрацьпаставіўся цёмным імперскім сілам. І быў паслядоўным да канца. Сваім аўтарытэтам і сваімі новымі творамі ён працягваў змаганне за нашу агульную высакародную ідэю — Вольную Беларусь. Васіль Быкаў спазнаў разам з народам пераслед і здзекі ад ворагаў Беларусі, але не зламіўся, не саступіў.

Напісанае Васілём Быкавым застанецца. Застанецца ўдзячная народная памяць і веліч сапраўднага мастацтва.

**Сябры Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі — БНФ.**

## Васілю Быкаву цяжка было жыць

У інтэрв'ю БелаПАН беларускі пісьменнік Генадзь Бураўкін сказаў: "Творы Васіля Быкава, створаныя ў апошнія гады, у прыватнасці, яго славутыя прыпавесці, апошняя кніга "Доўгая дарога дадому", бясспрэчна, павінны быць унесены ў школьную праграму... Я лічу, што з гэтымі творамі беларусы павінны знаёміцца ў тым узросце, калі фарміруецца іх духоўны свет".

Аднак для гэтага, лічыць Г.Бураўкін, неабходна, каб беларускія ўлады змянілі стаўленне не толькі да Васіля Быкава, але і да ўсёй нацыянальнай літаратуры і гісторыі. "Калі сапраўдная літаратура, сапраўдныя таленты будуць падтрымлівацца дзяржавай, педагогамі, і, як любяць гаварыць, ідэалагічнымі работнікамі, тады не будзе патрэбы шукаць нацыянальную ідэю", — лічыць Генадзь Бураўкін.

Расійскі пісьменнік і публіцыст, блізкі сябра Васіля Быкава Валянцін Аскоцкі ў інтэрв'ю БелаПАН сказаў: "Я лічу, што пасля смерці Васіля Быкава хаця б дзеля таго, каб загладзіць віну перад ім, што вымусіла яго некалькі гадоў жыць па-за межамі Беларусі (але ён сябе эмігрантам нідзе не лічыў), відаць, трэба падумаць аб тым, каб увекавечыць памяць пісьменніка. Трэба выдаць поўны зборнік твораў Васіля Быкава, у які б увайшла не толькі мастацкая проза, але і артыкулы на літаратурныя тэмы, лісты, публіцыстыка. Трэба сказаць, што я з'яўляюся ўладальнікам апошняга твора Васіля Уладзіміравіча. Па маёй просьбе Быкаў, калі знаходзіўся ў Празе, ужо хворы, напісаў дзве старонкі эсэ для зборніка, які я рыхтаваў да 80-годдзя пісьменніка Аляксандра Рашанцава. Таксама мне падаецца, што ў Мінску добра было б арганізаваць літаратурны музей Васіля Быкава".

"Я цвёрда ведаю, што былі факты недапушчальнага стаўлення да пісьменніка, недапушчальнай знявагі да яго, — заявіў Валянцін Аскоцкі. — Нават памятаю ліст ад былых аднапалчан Быкава, якіх адшукалі па ўсім Саюзе і арганізавалі подпісы пад "калектыўкай", дзе яны асуджалі яго пазіцыю... Ёсць і іншыя факты зневажальнай крытыкі. У такіх умовах пісьменніку цяжка было жыць".

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ, БелаПАН.**

## Мы выдалі яго апошнюю кнігу

Мёртвым не баліць, але баліць жывым, усім беларусам, і не толькі беларусам. Баліць у сувязі з вялікай і непапраўнай утратай. На 80-м годзе жыцця нас пакінуў назаўсёды нацыянальны геній, народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў. Скончылася доўгая дарога дадому слаўнага сына беларускага народа.

Цяжка! Цяжка аб гэтым думаць. Немагчыма словамі выказаць глыбіню пачуццяў горычы і смутку. Пайшоў ад нас выдатны і мудры Настаўнік Праўды — Геній нацыі. Пайшоў у той час, калі так патрэбна яго прысутнасць. Нам будзе не хапаць яго мудрасці, чалавечай дабрыні, яго ненапісаных твораў.

З глыбокім смуткам і жалем ад імя ўсіх прыхільнікаў унікальнага і непаўторнага таленту Васіля Уладзіміравіча калектыў Беларускага таварыства "Кніга", які выдаў яго апошнюю кнігу "Доўгая дарога дадому".

**Уладзімір ЛАПЦЁНАК,**
**першы намеснік старшыні беларускага таварыства "Кніга".**



Фота Яўгена КОКТЫША.

## Оставаться самим собой

Так случилось, что мы с Василем Быковым получали высокие государственные награды в один и тот же день и из одних рук. Он — Звезду Героя Социалистического труда, я — орден Ленина. Через год началась перестройка, демократизация той страны, которая еще какое-то время называлась Советским Союзом.

Василю Владимировичу не надо было осознавать свое место в литературе, среди своих коллег, в этой жизни вообще. Он осознал его давно и твердо. Получая советские награды, великий писатель оставался самим собой — Василем Быковым. Честным и неподкупным.

Когда он стал резко критиковать коммунистическую партию за ее косность и бесперспективность, я занимал пост первого секретаря Могилевского обкома КПСС. И я очень благодарен ему за эту критику, которая помогла мне окончательно переосмыслить "руководящую и направляющую" роль единственной партии в СССР.

Фигура Василя Быкова является воплощением национальной идеи, знаменем борьбы за независимость Беларуси. Верится, что под это знамя уже в ближайшее время будет становиться все больше наших соотечественников, для которых слово "Родина" — не пустой звук. И которые в полной мере понимают всю масштабность и горечь утраты — кончину Василя Владимировича Быкова.

**Василий ЛЕОНОВ,**
**председатель попечительского совета регионального фонда "За новую Беларусь".**

*Сяргей БЫКАЎ:*

## «Апошняя просьба бацькі была — адвезці яго дадому...»

*Сын Васіля БЫКАВА Сяргей быў у мінулую нядзелю ў бальніцы ля бацькі да трох гадзін дня. Васіль Уладзіміравіч усё пытаў: "Як справы? Як работа? Як сябе пачувае ўнук?"*

— Было бачна, што сам бацька пачуваў сябе вельмі дрэнна, — кажа Сяргей Васільевіч. — Размаўляў цяжка, дадавалася яшчэ і астма. Апошняя просьба яго была: "Стаміўся я тут. Адвязіце мяне дадому". Урачы сказалі, што гэта проста нерэальна.

А вечарам... Вечарам мне стала дрэнна, паліліся слёзы. А праз колькі хвілін мне патэлефанавалі і сказалі, што памёр бацька. Я гэта адчуў біялагічна яшчэ раней.

## Ва ўрадавай камісіі...

*Учора прайшло пасяджэнне ўрадавай камісіі па арганізацыі пахавання Васіля Уладзіміравіча Быкава.*

Напярэдадні ў Саюзе беларускіх пісьменнікаў было вырашана дэлегаваць у склад камісіі Сяргея Законнікава, Генадзя Бураўкіна і старшыню Саюза Алеся Пашкевіча. У камісію ўключылі толькі апошняга, якому і задаў некалькі пытанняў карэспандэнт "Народнай волі".

**— Алесь Аляксандравіч, ці было на пасяджэнні канчаткова вырашана пытанне: дазволяць улады пранесці на руках ад плошчы Перамогі і да плошчы Якуба Коласа труну з Васілём Быкавым?**

— Камісія вырашыла, што мэтазгодна было б устрымацца ад такога кроку, а канчатковае рашэнне ў такіх пытаннях павінны прымаць блізкія.

**— Але ж пазаўчора ў Саюзе пісьменнікаў сын Васіля Уладзіміравіча быў не супраць гэтага.**

— Так, не супраць...

**— Аб чым яшчэ гаварылася на пасяджэнні?**

— Вырашаліся ўсе арганізацыйныя пытанні: вайсковы каравул, забеспячэнне парадку і г.д. Зараз вядуцца планавыя рамонтныя работы ля Дома літаратара, аднак на момант пахавання яны будуць завершаны.

**— Тэрміны развітання з Васілём Уладзіміравічам не змяніліся?**

— Развітанне пройдзе ў Доме літаратара з 10.00 да 12.30, пасля чаго адбудзецца грамадзянская паніхіда, якую будзе весці старшыня ўрадавай камісіі, міністр культуры Леанід Гуляка.

**Алесь СІВЫ.**

## Последний разговор

**Семен БУКЧИН**

Сейчас я силюсь вспомнить, когда же он точно позвонил мне в последний раз. Ругаю себя, что не записал ни даты, ни самого разговора. Как всегда, казалось, что еще увидимся, поговорим... Всегдашняя наша самонадеянность, что времени еще достаточно, что успеется.

Но, в общем, все было не так давно — буквально накануне его переезда из Германии в Прагу. И был повод — он благодарил меня за пересланные ему с помощью хорошего человека мои книги, "Белорусскую трагедию" и "Польский дневник", говорил добрые слова. Теперь я понимаю, что это было прощание.

Он был суровый, сложный, закрытый, немногословный человек. Мне кажется, что таким он был всегда. Хотя люди, гораздо лучше знающие его, могут и не подтвердить этого. Я узнал о нем студентом в начале 60-х годов, когда появились повести "Журавлиный крик", "Третья ракета", сборник рассказов "Одна ночь". Его уже начинали покусывать "защитники" "настоящей правды о войне". В один из журналистских приездов в Гродно я пришел в редакцию областной газеты, где он тогда работал. И на всю жизнь осталось у меня впечатление, что встретился с лейтенантом из его ранних повестей. Худенький, белесый, челка набок. Такого встретишь в толпе — взгляд не остановится. Но что-то было в этом скромнейшем сотруднике "Гродненской правды". Какая-то внутренняя сила в его немногословности, раздумчивости, подбирании слов в разговоре.

А потом, когда появились в "Новом мире" его "Мертвым не больно", а за ними "Круглянский мост", "Обелиск", — какая поднялась свистопляска! Как орали, визжали и требовали распять его на идеологическом кресте "борцы против окопной правды"! Мало кто знает, что "патриоты", естественно по наущению, били окна в его гродненском доме. А он не жаловался, писал, работал, памятуя о словах Твардовского, сказанных ему: "Все минется, правда останется".

Когда началась перестройка, он воспрянул, поверил, повернул на публицистическую стезю вместе с Алесем Адамовичем — обличал партократов, черносотенцев, надеялся на приход демократии. Главной его болью и заботой стала демократическая, свободная Беларусь, не стыдящаяся своего языка, не сторонящаяся своей культуры. В ту пору он нередко звонил мне, в особенности после появления той или иной, как он считал, удачной моей статьи. Но был и краткий период отчуждения, когда ему показалось, что моя критика антироссийской направленности человека, которого он назвал "апостолом белорусским", зашла чересчур далеко. Все эти годы я помню, как с отчаяния кричал в телефонную трубку: "Но это же не я, а вы, которому "Новый мир" и Твардовский открыли дорогу в мир, должны сказать, что не вся русская культура заражена имперскостью и шовинизмом!" И услышал приглушенное: "Может быть, сейчас не время об этом...".

И вот читаю в его последней книге слова об ограниченности и близорукости наших национальных вождей того времени. Пусть не покажется кому-то, что я трактую эти слова как запоздалое признание "моей правды". Нет! Теперь я еще больше понимаю, какова же была его вера, его надежда на новую Беларусь. Как он не хотел повредить возможной новой Беларуси малейшим движением, понимая, сколь важно в обществе его слово. А мы все требовали, хотели, чтобы он разделял нашу правду, казавшуюся нам единственной.

А он был один, Василь Быков, и сердце его вмещало все наши правды. Только он не показывал этого. Совсем не говорун, он почти замолчал, когда над Беларусью опустилась длящаяся уже почти десятилетие ночь, беспросветность. Нет, он писал, иногда давал нелюбимые интервью. Но прежде всего это было молчание. Трагическое молчание.

Что он мог еще дать своему народу? Как мог показать свое презрение режиму? Он уехал из страны. Так поступали в годы гитлеризма большие немецкие писатели. Начался последний акт его драмы — жизнь на чужбине. Финляндия, Германия, Чехия... Пускай умолкнут завистники и шептуны по углам, пересказывающие сплетни о заграничном благополучии Быкова. Это была трагедия. В том последнем телефонном разговоре со мной накануне отъезда в Чехию он не жаловался, но сказал достаточно откровенно о тех серьезных проблемах, которые приходилось испытывать ему, старому и тяжело больному человеку. Я не стану их пересказывать, потому что всегда помню о Быкове — командире артиллерийской батареи.

И в Праге ему — знаю это от людей, которым не могу не доверять, — пришлось нелегко. Вацлав Гавел, знающий цену Быкову, от души хотел помочь. Это был один из последних благородных поступков уходящего президента Чехии. Но Гавел уходил не в лучшей для себя атмосфере. А еще есть чиновники... А еще есть суетливые и стремящиеся извлечь свою "маленькую пользу", осевшие в Праге "друзья". Хотя были там и люди, стремившиеся по-настоящему помочь...

Но трагедия шла к своему закономерному концу. Режим знал, что делал, когда травил его. И вот итог травли — смертельная болезнь и смерть.

Я пишу эти строки в день смерти Быкова. До похорон. Я не знаю, какие речи будут говорить функционеры режима, еще недавно распинавшего на своем холуйском телевидении "пособника фашистов и сионистов". Не сомневаюсь, что будет и о "большом писателе, показавшем правду о войне" и, может быть, даже "о совести нации". Хотя последнее может быть сочтено за немалое прегрешение...

Но они должны знать о том, что знаем мы: Карпенко, Захаренко, Гончар, Красовский, Завадский... Теперь в этом ряду Быков.

Мы не забудем.



*У мінскім кінатэатры "Цэнтральны" адбыўся прагляд мастацкага кінафільма Юрыя Елхава "Анастасія Слуцкая". Галоўную ролю ў ім выканала беларуская актрыса Святлана Зелянкоўская (на здымку).*

**Фота Генадзя СЯМЁНАВА, БелТА.**

ИЗ ПОЧТЫ ГЛАВНОГО РЕДАКТОРА

# Трансплантология: чьи-то фантазии и реальность

Уважаемый господин редактор!

Прочитав статью В.Щукина "Воруют... почку?", опубликованную в Вашей газете 4 июня 2003 года, мы не смогли оставить ее без внимания, настолько поражает неосведомленность автора в вопросах трансплантологии, а также отсутствие этики.

Если бы вышеупомянутая статья появилась в бульварном листке, который гонится за дешевым рейтингом и сенсациями, то мы не затруднили бы себя даже ее чтением. Но так как Ваша газета рассчитана на достаточно просвещенный круг читателей, считаем необходимым ответить Вам и Вашему автору, который вряд ли задумывался о последствиях. Ведь те люди, которые нуждаются в пересадке органов, отлично знают, что эта сфера медицинской деятельности в Республике Беларусь — абсолютно чиста и прозрачна, и нет нелегальных способов получить почечный или другой трансплантат. Они боятся потерять главную надежду — вернуться к нормальной, полноценной жизни, поскольку появление подобных статей может негативно сказаться на работе отделения трансплантации.

Мы не имеем морального права комментировать события, происшедшие в 20-й больнице г.Москвы. Это дело следственных органов.

Трансплантация почки является хирургическим методом лечения людей с терминальной стадией почечной недостаточности. Общепризнанно, что успешная трансплантация наилучшим образом восстанавливает качество жизни пациентов, обеспечивая их полную медицинскую и социальную реабилитацию.

Для трансплантации могут быть использованы органы как живых, генетически родственных доноров (кроме трансплантации костного мозга, где живой донор может быть не родственным), так и трупных доноров. Живым донором органов может быть только дееспособный гражданин, достигший 18-летнего возраста. Согласие живого донора должно быть обязательным, добровольным, выраженным в письменной форме и заверенным нотариально. В Республике Беларусь первая родственная трансплантация почки была успешно выполнена 21.01.2003 года (почка была пересажена от брата брату), при этом были соблюдены все необходимые юридические формальности и оповещены органы прокуратуры.

Наше законодательство не позволяет выполнять изъятие органов живых неродственных доноров за финансовое вознаграждение, практикуемое в Индии, а также у лиц, приговоренных к смертной казни, с согласия их родственников, используемое в Китае. Законодательство некоторых стран (США, Австралия) позволяет использовать парные органы живых неродственных доноров на альтруистической основе, применяя к таким донорам термин "добрые самаритяне".

Отсутствие в нашем законодательстве возможности трансплантации от неродственных живых доноров полностью оправдано, поскольку исключает возможность скрытой, нелегальной коммерциализации донорства.

Господин Щукин, безграмотно рассуждая о трансплантологии, навязывает читателям собственные домыслы и лишний раз подтверждает мнение о том, что каждый обыватель досконально разбирается в трех вещах: в футболе, раскрытии преступлений и медицине.

В статье говорится, что производятся при жизни незаконно (!) анализы на пригодность для трансплантации "у доноров, сдающих кровь, и при клиническом обследовании пациентов". Зачем? Уж не для того ли это делается, чтобы отследить затем "нужного донора", как пишет автор, и отправить с несовместимой с жизнью черепно-мозговой травмой в реанимацию, где ждут кровожадные трансплантологи?

А может, автор насмотрелся низкопробных американских боевиков?

Остановитесь, господин Щукин, вернитесь из своих фантазий в реальность. Забор крови для определения тканевой совместимости производится во время изъятия почек (лаборатория типирования работает круглосуточно и дает ответ в течение 4 часов), и заранее невозможно знать, кому из 350 находящихся в листе ожидания пациентов будет произведена операция.

Автор утверждает: "изъятый орган может находиться вне организма непродолжительное время: почка — до полутора суток, но это если изымать орган при бьющемся сердце, после его остановки "живучесть" всего 20 минут. При таком жестком лимите времени потребуются два операционных стола и две бригады хирургов".

Представляет ли господин Щукин, сколько длится операция по пересадке почки? 20 минут?

А сколько времени уходит на то, чтобы побриться? Можно ли это сопоставить с многоэтапной операцией? Откуда информация о таком "жестком лимите времени"?

Наличие любого количества операционных столов и бригад хирургов не сократит продолжительности 3—4-часовой операции.

Лимит в 30 минут после остановки сердца существует только для операции изъятия почек. Срок консервации или, как выражается автор, "живучесть" почки при любом способе изъятия (с бьющимся или остановившимся сердцем) остается тем же — 24 часа.

Далее в статье говорится, что, "в отличие от США, Канады, Японии, Великобритании, Германии и многих других стран, в которых требуется согласие донора и родных на изъятие органа, в России и Беларуси никто никого не спрашивает", и ставит точку. Автор не разъясняет, что при получении органов от трупных доноров в РБ действует юридическая система предполагаемого согласия. Органы для трансплантации могут удаляться из тела умершего, если он, будучи живым, не высказал возражений, или иные лица, близкие к нему, не заявили в соответствующее время, что он имел бы возражение против забора его органов.

Если близкие заявляют об отрицательной позиции к донорству умершего или своей, тогда забор органов производиться не будет. Таким образом, в этой системе охраняется право индивидуума отказаться от забора органов (наиболее полно и четко эта система изложена в комментариях к первому руководящему принципу Всемирной организации здравоохранения). Такая модель является наиболее прогрессивной и действует во многих странах мира (Австрия, Бельгия, Дания, Россия, Беларусь и т.д.).

Произвольное трактование фактов и неверная информация создают впечатление о том, что трансплантология у нас — это полукриминальная отрасль медицины.

В настоящее время в странах с высокоразвитым здравоохранением стал общепринятым диагноз смерти мозга. Это произошло в связи с пониманием того, что сущностью сознательной человеческой жизни является его психика, заложенная в деятельности мозга. Поэтому смерть мозга, а не прекращение сердечной деятельности, принята в качестве критерия смерти человека. При этом дыхание и кровообращение донора сохраняются при помощи технических систем жизнеобеспечения. В англоязычной литературе для такого состояния принят термин (использующийся и в медицинской документации) "труп, в котором поддерживается жизнь" (life supported cadaver).

Гарантией, не допускающей вероятность преждевременного определения смерти донора, является наличие специальных комиссий. Они состоят из врача-реаниматолога, невропатолога (нейрохирурга), судебно-медицинского эксперта, заведующего отделением реанимации и заместителя главного врача по лечебным вопросам (или ответственного дежурного врача по больнице в ночное время). Члены комиссии не заинтересованы в проведении трансплантации, никогда не являются членами трансплантационной бригады, которая обеспечивает последующее изъятие органов. Решение о наступлении смерти мозга принимают, исходя из интересов умирающего (донора), а не реципиента.

Организация трансплантологической помощи в РБ основана и осуществляется в соответствии с Конвенцией о защите прав и достоинства человека в связи с использованием достижений биологии и медицины от 1996 года, "Законом Республики Беларусь о трансплантации органов и тканей человека" от 18.02.1997 г., который утвержден президентом Республики Беларусь 04.03.1997 г., приказом №150 Минздрава Республики Беларусь "О дальнейшем развитии трансплантологической помощи населению Республики Беларусь" от 20.06.1997 г. и инструкции №140-1201 "Основные принципы отбора и ведения больных, являющихся потенциальными донорами почек для трансплантации", которая выпущена Минздравом для использования в качестве нормативного документа врачами отделений реанимации и интенсивной терапии 13.12.2002 года.

Поэтому утверждение о том, что "во имя продления жизни на этом свете одному человеку ускоряют уход на тот свет другому" является плодом воображения автора.

Мы ежедневно видим страдания пациентов, ожидающих почечный трансплантат, и помним о том, что пересадка двух почек умершего человека спасает жизнь четырех людей — двоих, получивших жизнеспособный трансплантат, и двоих, начавших лечение на освободившихся аппаратах "искусственная почка".

Официальная статистика Министерства здравоохранения РБ по этой проблеме весьма печальна. Ежегодно у нас в стране появляется около 1000 новых больных с нефункционирующими собственными почками. Только немногие из этих людей получат необходимую помощь, поскольку свободных мест в отделениях "искусственной почки" нет, хотя все аппараты работают в 2—3 смены без выходных.

О какой "завесе молчания" вокруг темы донорства идет речь? Информация о работе отделения трансплантации почек, как и любого другого отделения, в полном объеме регулярно представляется в соответствующие органы здравоохранения. Частное лицо может свободно получить любую статистическую информацию, в том числе и о количестве согласий на изъятие почек. Но если господина Щукина интересуют данные о конкретных людях, то он их не получит ни в одном медицинском учреждении. Надеемся, ему известно понятие врачебной тайны.

Операции по пересадке почки и донорские органы в Республике Беларусь для граждан нашей страны бесплатны. Государство бесплатно обеспечивает больных дорогостоящими лекарствами, необходимыми для профилактики отторжения трансплантатов. Ведь наши пациенты являются инвалидами I или II групп и по состоянию здоровья не работают.

Нам ничего не известно о торговле в Республике Беларусь органами и живыми донорами. Может быть, автор статьи раскроет источник своей осведомленности в этом вопросе? Так что, боимся, придется Вас разочаровать, "отлаженный бизнес" не более чем миф.

Поделитесь с читателями фактами, а не пересказом статей из "Комсомольской правды" и сюжетов Российского телевидения. А может, Вам писать по материалам "Очень страшной газеты"? Чем не источник информации?

Надеемся, что когда господин Щукин будет писать следующую статью, не касающуюся его профессиональных знаний, то обратится за советом к специалистам.

**Сотрудники Республиканского центра нефрологии и пересадки почек:**

**Валерий ПИЛОТОВИЧ, профессор, доктор медицинских наук;**
**Леонид ТКАЧЁВ.**

**Врачи:**
**Владимир ПОТОП;**
**Олег КАЛАЧИК, кандидат медицинских наук;**
**Валерий СКАКУН.**

ПУЛЬС

## Выхад «Предпринимательской газеты» прыпынены на тры месяцы

23 чэрвеня рэдакцыя "Предпринимательской газеты" (УП "Марат") атрымала па пошце два дакументы: другое па ліку папярэджанне Міністэрства інфармацыі і загад аб прыпыненні выхаду газеты на тры месяцы. Аб гэтым паведаміла прэс-служба Грамадскага аб'яднання "Беларуская асацыяцыя журналістаў".

У паведамленні БАЖ нагадваецца, што папярэджанне рэдакцыя газеты атрымала за матэрыял пад загалоўкам "Узаконенный беспредел" (№17 за 9-16 чэрвеня г.г.), прысвечаны звальненню дырэктара Паліграфічнага рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Чырвоная зорка" Уладзіміра Целеша.

19 чэрвеня намеснік міністра інфармацыі С.Нічыпаровіч падпісаў загад №109 аб прыпыненні выхаду "Предпринимательской газеты" тэрмінам на тры месяцы "ў сувязі з парушэннем рэдакцыяй... заканадаўства аб друку, якое выявілася ў апублікаванні... непраўдзівых звестак".

Намеснік генеральнага дырэктара УП "Марат" Любоў Вашкевіч заявіла прэс-службе БАЖ, што рэдакцыя будзе абскарджваць вынесенае папярэджанне і загад намесніка міністра.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## Усім загадана касіць

Адміністрацыя Шаркоўшчынскага раёна, занепакоеная нізкімі тэмпамі нарыхтоўкі сена, якога па стане на 23 чэрвеня назапашана ў дзесяць разоў менш, чым прадугледжана гадавым планавым заданнем, вырашыла прыбегнуць да выпрабаванага ў нядаўнім мінулым адміністрацыйна-каманднага метаду.

Усім прадпрыемствам і арганізацыям райцэнтра загадана забяспечыць нарыхтоўку на няўдобіцах, у ярах, па ўскрайках лесу не менш за адну тону сена на кожнага працуючага ў калектыве мужчыну. Так, цэнтральная раённая бальніца павінна накасіць 26 тон, рэдакцыя раённай газеты — каля 10, аўташкола — 5 тон і г.д.

**Максім АРХІПАЎ.**

## Новы руднік у Салігорску

Новае, пятае па ліку горназдабываючае прадпрыемства вытворчага аб'яднання "Беларуськалій", якое будуецца ў пасёлку Красная Слабада Салігорскага раёна, выдасць першыя тоны сільвініту на два гады раней устаноўленага тэрміну, у ліпені 2009 года замест планавага 2011.

У гэтым упэўнены выканаўца абавязкаў галоўнага інжынера новага аб'екта Алег Шаўцоў. Абгрунтоўваючы па просьбе БелаПАН свой прагноз, ён прывёў наступныя аргументы. Канструктарам удалося знайсці некалькі арыгінальных рашэнняў, якія дазволяць амаль на год скараціць тэрміны праектавання рудніка. За кошт адначасовага вядзення падземных і наземных будаўнічых работ чакаецца такі ж выйгрыш па часе.

Акрамя таго, сумяшчэнне праходкі ствалоў і выпрацовак калялствольных двароў з будаўніцтвам наземных камунікацый, як сцвярджаюць спецыялісты, абяцае значную эканомію сродкаў і больш высокую якасць работ.

**Ларыса НАСАНОВІЧ.**

SOS!

## Продлите мне жизнь...

Здравствуйте, уважаемый редактор!

Пишет вам Вакульчик София Константиновна.

Я больна. Мне 45 лет. Очень хочется жить. Но для лечения рака нужны дорогие химиопрепараты, а у нас нет денег. Стоят они 680.000 рублей. Может, Вы могли б напечатать мое письмо и кто-нибудь смог бы помочь мне приобрести лекарства.

Умоляю — помогите! Продлите мне жизнь хотя бы на месяц. Я уже прошла 10 курсов химиотерапии. Это — ужасно тяжело. Но жить хочется.

**София Константиновна ВАКУЛЬЧИК, жительница д.Мыто Лидского района.**

ШТРЫХ

## Рухавік гісторыі круцяць самі пасажыры

*Цікава рэагуюць на апошнія змены ў насценным друку сталічнай "падземкі" некаторыя яе пасажыры. "Народная воля" паведамляла пра новыя жоўценькія схемы станцый, якія развесіла амаль ва ўсіх вагонах метро кампанія "Velcom". На іх замест звычнай назвы "Плошча Незалежнасці" красуецца надпіс "Плошча Леніна". Я ўжо два разы бачыў, як на схемах нехта закрэсліў ручкай камуністычную назву і ўзнавіў: "Плошча Незалежнасці".*



Відаць, не хочуць найбольш нецярплівыя члены грамадства чакаць, пакуль начальнік унітарнага прадпрыемства "Мінскі метрапалітэн" Мікалай Андрэеў сядзе за сучасныя падручнікі гісторыі альбо праштудзіруе "Чорную кнігу камунізму" Стэфана Куртуа, дзе падрабязна апісаны злачынствы камуністычнага рэжыму, у тым ліку ў Расіі, пад кіраўніцтвам Уладзіміра Леніна.

Мусіць, не хочуць такія пасажыры спадзявацца і на мудрасць кіраўніцтва самой кампаніі "Velcom", якое, праводзячы рэкламную акцыю, не задумалася аб тым, як успрымуць яе большменш адукаваныя кліенты.

Не маю планаў, шчыра кажучы, апраўдваць гэтае, па сваёй сутнасці, дробнае хуліганства ў метро. Але і не асуджаю яго. Калі ўзгадваць тую ж гісторыю, менавіта з рознага кшталту дробных "хуліганстваў" як схаванай формы грамадзянскага пратэсту пачыналася падзенне таталітарных рэжымаў у Чэхіі і Польшчы, Літве і Румыніі.

Ды і наогул, сусветны вопыт яскрава дэманструе: рухавік гісторыі нельга штучна прымусіць круціцца назад па загадзе зверху. Нават па самым мудрагелістым...

**Алесь СІЛІЧ.**

## Туманны Альбіён у тумане

Брытанскі ўрад ў мэтах узмацнення жорсткасці іміграцыйнага заканадаўства сваёй краіны стварылі спецыяльны спіс з 16 краін-"няўдачнікаў", якія, як сцвярджае канал "Бі-бі-сі", *"выклікаюць асаблівую заклапочанасць у брытанскай паліцыі"*. Поўнасцю спіс выглядае наступным чынам: Албанія, **Беларусь,** Бераг Слановай Косці, Бірма, Бурундзі, Гамбія, Ліберыя, Македонія, Малдова, Непал, Палесцінская аўтаномія, Руанда, Сенегал, Сьера-Леоне, Судан і В'етнам. Цудоўнае суседства, нічога не скажаш!

Беларусам цяпер будзе патрэбна віза не толькі для таго, каб завітаць на тэрыторыю Туманнага Альбіёна, а таксама і для таго, каб зрабіць перасадку ў любым з брытанскіх аэрапортаў. Новыя правілы ўступаюць у сілу ў суботу, 28 чэрвеня.

Намеснік міністра ўнутраных спраў Вялікабрытаніі Беверлі Х'юз так пракаменціраваў гэтае рашэнне: *"Мы маем намер зрабіць усё магчымае для ўзмацнення аховы брытанскіх межаў. Зараз многія з тых, каму не была выдадзена брытанская віза, проста набываюць квіток у іншую краіну з перасадкай ў Вялікабрытаніі, а потым, нібы накіроўваючыся да месца перасадкі, падыходзяць да супрацоўнікаў паліцыі і патрабуюць прадаставіць ім палітычнае сховішча"*.

У амбасадзе Вялікабрытаніі ў Беларусі тым не менш падкрэсліваюць, што ўвядзенне транзітных віз "не будзе перашкодай для наведвання краіны для тых, хто мае да гэтага законныя падставы".

**Наталля ГАК.**

ЛІСТ У ГАЗЕТУ

## Я мару пра маленькі Ліцэй з вялікай душой



Мабыць, я яшчэ недастаткова дарослая, каб зразумець, чым кіруюцца людзі, якія ўслых разважаюць пра маральнае выхаванне і адукацыю моладзі і адначасова руйнуюць адну з самых лепшых навучальных устаноў Беларусі — Нацыянальны дзяржаўны гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа.

Ці быў у іх самы любімы настаўнік і самы важны ў жыцці ўрок? Ці ведаюць яны, як можна любіць настаўнікаў і іх урокі і як усё гэта можна абараняць? І ці стварылі яны штосьці годнае, што так лёгка разбураюць Ліцэй, за які ўжо больш як 10 год ідзе барацьба. Было шмат спробаў прыпыніць дзейнасць амаль што апошняй цалкам беларускамоўнай навучальнай установы. У 1997-м мы ўсё лета стаялі ў пікетах — і абаранілі Ліцэй. Змагаемся і зараз. Аднак з кожным днём надзеі застаецца ўсё меней. Бо з новай дырэктаркай, што толькі пачала вучыць беларускую мову і якой чужая наша аўра і ідэалы, Ліцэй страціць сваё сапраўднае аблічча.

Ліцэй — гэта не будынак. Ліцэй — гэта непаўторная атмасфера, што стваралася гадамі: вечарыны, арганізаваныя ліцэістамі і настаўнікамі, ліцэйскі тэатр, што вядомы нават па-за межамі Беларусі і іншае. Гэта і літаратурныя сустрэчы з вядомымі пісьменнікамі і перакладчыкамі, гэта чытанне вершаў у гонар Янкі Купалы і Якуба Коласа, Максіма Багдановіча і іншых. Гэта і перамогі на рэспубліканскіх алімпіядах штогод. Гэта і настаўнікі, якія валодаюць некалькімі замежнымі мовамі, пішуць падручнікі і кнігі, выкладаюць у еўрапейскіх універсітэтах, узнагароджаны прэзідэнцкімі прэміямі. Большасць з іх працуе не дзеля грошай, а таму, што яны адданыя сваёй справе і адчуваюць еднасць і адказнасць за будучыню ліцэістаў і проста за Ліцэй. У Ліцэй прыязджаюць амбасадары ЗША, Італіі, Францыі і іншых краін.

Не магу ўявіць, што тут можа не падабацца.

Адсюль выходзіць новае пакаленне беларусаў, у якога няма часу паліць у брудных пад'ездах і якое больш прынцыповае да таго, што адбываецца вакол. Таму мы змагаемся, каб кожны ўбачыў, што тут творыцца несправядлівасць, пра якую хочацца крычаць, каб усе пачулі.

У мяне была дзіўная мара: адкрыць школу дзе-небудзь у Афрыцы, але, калі становішся дарослым, рамантычныя настроі знікаюць, пачынаеш азірацца навокал. Мабыць, калі я стану больш моцнай, то паспрабую абараніць Ліцэй назаўсёды. І ўпэўнена, што я буду не адна — са мной будуць ліцэісты і, магчыма, нават іншыя людзі, што не абыякавыя да будучыні Беларусі.

**Яўгенія СІДАРЧУК, выпускніца ліцэя.**
**Фота IREX/ProMedia.**

ОСТРЫЙ ВЗГЛЯД

# Третий сектор зачищают перед третьим сроком?

**Сергей ПУЛЬША**



А мы-то думали — ну зачем это власти зачищают негосударственный сектор? Почему без особых церемоний косяком ликвидируются общественные организации и приостанавливаются газеты? Зачем властям контролируемые профсоюзы? Теперь все стало ясно. Вопрос только — когда?

Примечательно, что активная зачистка сектора негосударственных организаций коснулась прежде всего республиканских структур и влиятельных региональных НГО — ресурсных центров, на которые опираются более мелкие организации. *На днях ликвидировано гомельское общественное объединение "Гражданские инициативы"*. По решению Верховного суда ликвидирован также Молодежный христианско-социальный союз, имевший несчастье проявить себя во время президентской кампании 2001 года. Все еще под судами ресурсные центры "Ратуша" в Гродно и "Варута" в Барановичах.

Одновременно пошло давление на независимую прессу. Такого напора она еще не знала. В самые кратчайшие сроки Министерство информации в мае вынесло несколько предупреждений старейшему негосударственному изданию страны — "Белорусской деловой газете", ее приложению "БДГ. Для служебного пользования" и политико-сатирическому изданию "Навінкі". После вынесения предупреждений Министерство информации по закону о СМИ имеет право приостановить выход газеты на три месяца. Этим правом оно немедленно воспользовалось.

"Белорусская деловая газета" пыталась оспорить свои предупреждения. Ничего не вышло — и первое, и второе предупреждения Высший хозяйственный суд оставил в силе. Все попытки "БДГ" так или иначе дойти до читателя пресекаются в первую очередь правоохранительными органами. Откуда-то сверху строго велено: не пущать!

Действия властей многие аналитики сразу расценили, как подготовку к важной политической кампании. Еще до *знаменитого совещания по единому рублю* политолог **Валерий Карбалевич** говорил ***"Белорусским новостям"***, что эта кампания будет обязательно. *"Мнения о том, что власть готовится к какой-то кампании, уже высказывались неоднократно в общественных кругах лидерами политических партий, экспертами... Это сомнения ни у кого не вызывает. Причем об этом сигнализирует ситуация не только в НГО и СМИ, а еще и в профсоюзном движении. Тенденция проявляется и в том, что Управление делами президента подгребает под себя наиболее выгодные отрасли бизнеса. То есть концентрируются людские и материальные ресурсы. Что это будет за кампания? Это может быть референдум по Конституционному акту Союзного государства. Беларусь устроит плебисцит независимо от России и включит вопрос о третьем сроке президентства. Для власти важен именно третий срок, а не Конституционный акт. И даже парламентские выборы для нее не так важны"*, — сказал Валерий Карбалевич.

И оказался абсолютно прав. 18 июня на громком совещании по единой валюте Александр Лукашенко *фактически огласил программу продления президентских полномочий*. Он заявил, что на референдуме граждане могут расширить круг лиц, которым будет предоставлено право баллотироваться на эту высокую государственную должность, разрешив занимать ее более двух сроков. Поскольку кроме Лукашенко президентов в Беларуси еще не было, то это "разрешение" касается только его самого.

Стать президентом можно только через всенародные открытые выборы — об этом Лукашенко тоже сказал. Таким образом, в стране будут две масштабные политические кампании — сначала референдум, потом выборы.

Эти электоральные мероприятия, по логике властей, должны пройти в минимальные сроки. Во-первых, как отмечал тот же Валерий Карбалевич, президенту Беларуси лучше провести эти кампании до президентских выборов в России — то есть пока Москве приходится закрывать глаза на фокусы Минска, чтобы разыгрывать интеграционную карту. Во-вторых, в декабре 2003 года заканчивается мандат миссии ОБСЕ в Минске — переговоры по возобновлению этого мандата займут какое-то время, и это удобный период: европейские наблюдатели как бы отключены. В-третьих, на референдум и выборы нужны деньги, источники которых потихоньку иссякают. Возьмет Москва в свои руки денежно-кредитную политику — пиши пропало, у них лишнего рубля не выпросишь!

Соответственно подготовка к плебисциту и выборам должна идти быстро. И зачистку третьего сектора вполне можно считать не просто ударом по гражданскому обществу, но и прелюдией к референдуму. Особенно учитывая то, что ОБСЕ и БДИПЧ определятся с наблюдением только после объявления референдума, а в этом третьем секторе уже сидят наблюдатели, подготовленные еще в 2001 году. О независимой прессе и говорить не приходится: ну мешает она, мешает элегантным победам!

Лидер Объединенной гражданской партии **Анатолий Лебедько** предполагает, что после зачистки третьего сектора придет очередь политических партий. *"Политические партии — достаточно сложная цель для такой охоты. Поэтому ожидать каких-то действий в их отношении можно ближе к осени. Вероятно, масштабной зачистки политических партий не будет. Выберут одну-две покрупнее и устроят публичную экзекуцию — чтобы был урок остальным. Этого достаточно"*, — сказал он.

И, добавим, это вполне укладывается в нужные властям для политических кампаний временные рамки. Если референдум предполагается, например, в ноябре-декабре.

И никто не мешает включить в его бюллетень вопрос о досрочных выборах под каким угодно предлогом...

*("Белорусские новости".)*

